**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 30 (746) 24 ліпеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**У Глыбокім прайшоў чарговы Вішнёвы фестываль. На здымку: урачыстае шэсце ад помніка глыбоцкай вішні да цэнтральнай сцэны свята.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



Прыём прыватных абвестак_ №166

## ЕДЗЕМ НА ЛУЧАЙСКІ ФЭСТ!!!

**Лучайская парафія (Пастаўскі дэканат, Віцебская дыяцэзія) запрашае на фэст у гонар святой Ганны 26 ліпеня.**

**У праграме:**

**15:00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
**16:00** – урачыстую Літургію ўзначаліць Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, падчас якой удзеліць сакрамэнт канфірмацыі.
**18:00** – Усіх таксама чакае святочная праграма з забавамі, вёскай мастроў, лучайскімі прысмакамі і, канешне, добрым канцэртам.

Сёлета парадуюць вернікаў сваім выступам:
– мясцовая моладзь,
– гурт "СЕЙБІТ",
– бард Віктар Шалкевіч,
– гурт "RECHA",
– гурт "LAUDANS",
– акардыяніст-віртуоз Дзмітрый КОРСАК,
– эстрадны выканаўца Іван БУСЛАЙ,
– фаер-шоу, феерверк і, магчыма, іншыя госці.

Жадаем добра адпачыць духоўна і фізічна!!! ;)

**Будзем рады Вас бачыць у Лучаі!**

*Кс. Мікалай Ліпскі.*

## МНС інфармуе
**на 22.07.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 623;
Гібель людзей – 66, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 24;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 494.87 млн. руб.

## Глыбоцкі раён

# Тры незабыўныя дні

■ Станіслаў Раманчук

**Толькі тры дні працягваліся ў райцэнтры Глыбокае юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 600-годдзя аднаго з самых адметных і прыгажэйшых малых гарадоў краіны.**

Аднак яны пакінулі незабыўны след у памяці тысяч людзей, а сама прырода парадавалася за глыбачан і падаравала ім цёплае сонечнае надвор'е. Многіх уразіла ўрачыстае шэсце, калі па вуліцы прайшліся сам Ігнат Буйніцкі, княжна Рагнеда, славуты мастак Язэп Драздовіч, рыцары, рамеснікі, сяляне, дэманстранты савецкага часу і таксама калоны лепшых прадпрыемстваў і арганізацый горада. Глыбачанам па праву можна ганарыцца сваім мінулым і цяперашнім узроўнем мястэчка, а таксама галоўным багаццем краю – таленавітымі і шчырымі людзьмі. Дзе яшчэ ў глыбінцы знойдзецца цэлы сквер з помнікамі знакамітых землякоў, які дапоўніўся 9-м па ліку бюстам прафесара, доктара тэхнічных навук Юрыя Сабалеўскага, які ў гады вайны быў адным з кіраўнікоў мясцовага падполля. Таксама ў райцэнтры з'явілася і Дошка Гонару землякоў, Герояў Сацыялістычнай Працы. Глыбачане прыгожа арганізавалі свой юбілей, добра падрыхтаваліся да ўрачыстасцей. Напярэдадні свята ў Глыбокім адкрылі новыя скульптурныя кампазіцыі "Ісус і самарыцянка" і помнік самому барону Мюнхгаўзену. У райцэнтры цяпер на цэнтральнай плошчы ёсць і свая кропка адліку адлегласцей да суседніх райцэнтраў, Віцебска, сталіцы і шэрагу сусветных мегаполісаў. Значнай падзеяй стала гашэнне паштовай маркі спецыяльным штэмпелем з лагатыпам Глыбокага, працаваў і спецыяльны манетны двор, прыехала шмат замежных і іншых гасцей. Усім даспадобы прыйшліся лазернае шоў, феерверк і іншыя цікавыя юбілейныя мерапрыемствы.

## Віцебскі раён

# Замест маэстра казачка

■ Чэслаў Якубовіч

**Некалькі дзён запар абласны цэнтр падчас чарговага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" жыў асаблівымі бурлівымі падзеямі, прыняў амаль 15 тысяч гасцей з 29 краін свету.**

Падчас гэтага музычнага фэсту хапала працы міліцыі ў белых парадных рубашках і работнікам грамадскага харчавання, бо 35 рэстаранам і кафэ горада дазволілі працаваць кругласутачна. У выніку фестываль прайшоў арганізавана, аднак здарыўся і пэўны інцыдэнт. Шэраг айчынных СМІ нават паведамілі, што сёлета Алея зорак у Віцебску папоўніцца імянной плітой у гонар праслаўленага савецкага музыканта і кампазітара з Латвіі Раймонда Паўлса. Славуты піяніст і дырыжор быццам стаў дзясятым лаўрэатам спецыяльнай прэзідэнцкай узнагароды "Праз мастацтва да міра і ўзаемапаразумення". Аднак у апошні момант без тлумачэння прычын імянную зорку адкрылі ў гонар галоўнай саперніцы славутай спявачкі Надзеі Кадышавай народнай артысткі РФ, кіраўніка ансамбля "Руская песня" Надзеі Бабкінай. Апошняя рэгулярна прыязджае ў Віцебск, а сёлета для гэтай зоркі прыйшлося з Мінска нават спецыяльна прыганяць лімузін прадстаўніцкага класу. Надзея Бабкіна вядомая і тым, што яна палкоўнік казацкага войска, жыве прыпяваючы. Аднак сёлета з ёй здарыўся скандал: яна доўга не спяшалася выходзіць з вагона і адмовілася паразмаўляць крыху з сустракаўшай спявачку на вакзале групай журналістаў, за што, праўда, прынесла потым прэсе прабачэнне. А вось у чым "правініўся" перад арганізатарамі фестывалю латвійскі маэстра, ходзяць розныя версіі.

## Пастаўскі раён

# Прадукцыя на складах

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад суседніх, Пастаўскі раён акрамя сельскай гаспадаркі мае і буйны прамысловы патэнцыял, тут працуюць нават 9 прадпрыемстваў.**

З пачатку года практычна усе з іх, за выключэннем завода "Беліт" з холдынга радыёэлектронікі "Гарызонт", павялічылі выпуск гатовай прадукцыі. Аднак паколькі ў большасці мясцовых вытворцаў асноўны рынак збыту адзін у Расіі, то ўзніклі пэўныя цяжкасці з прадажамі. Калі ў пачатку студзеня сёлета складскія запасы па раёне складалі 13,4 млрд. рублёў, то па выніках першага паўгоддзя сітуацыя пагоршылася. У пачатку ліпеня на складах знаходзілася на Пастаўшчыне запасаў непрададзенай прадукцыі ўжо больш чым на 38 млрд. рублёў, альбо 60,3 % да сярэднямесячных аб'ёмаў вытворчасці. Напэўна, у рускіх не ўсё так добра складваецца з фінансамі пасля анексіі Крыма і ўведзеных супраць гэтай краіны санкцый. У выніку найбольш пацярпеў Пастаўскі малочны завод, які не можа рэалізаваць сыроў новага свайго сырцэха нават на 24 млрд. рублёў. Расійскія партнёры быццам абяцаюць купляць прадукцыю завода, але далей справы не ідуць, а шэраг махляроў на расійскіх прасторах сталі клеіць падробныя этыкеткі на ліпавую прадукцыю горшай якасці пад брэндам "Паставы Гарадок". У падобным становішчы знаходзіцца і завод "Беліт", які стаў прастойваць і не можа прадаць спажыўцам свае тэлевізары, кандыцыянеры, іншую тэхніку пастаўскай зборкі. З-за бюджэтных цяжкасцей дрэнна стала разыходзіцца і мэбля, выпушчаная на Варапеўскім дрэваапрацоўчым камбінаце і на прадпрыемстве "Паставымэбля". Акрамя вытворцаў у раёне яшчэ больш дрэнна ідуць справы ў АПК: колькасць стратных гаспадарак падвоілася да 10.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 24.07.14 | | | | Пятніца 25.07.14 | | | | Субота 26.07.14 | | | | Нядзеля 27.07.14 | | | | Пн.28.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +19 | +26 | +21 | +16 | +21 | +26 | +22 | +17 | +21 | +27 | +22 | +17 | +22 | +27 | +22 | +18 | +21 | +26 |
| Ціск | 751 | 751 | 751 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 751 | 752 | 752 | 751 | 752 | 753 | 752 | 751 | 751 | 751 | 751 |
| Вільготнасць | 75 | 72 | 42 | 67 | 80 | 76 | 51 | 69 | 81 | 74 | 39 | 63 | 82 | 78 | 47 | 61 | 63 | 64 | 36 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-У | 1 Пн | 3 У | 1 У | 1 Пн-З | 1 Пн-З | 1 У | 1 Пн | 1 Пн | 1 Пн | 1 У | 1 У | 0 ШТЛ | 1 Пд | 4 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 5 Пд |

# Аб самым надзённым

## ЭКАНАМІЧНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ ЗАКРАНУЛІ І ГАЛОЎНЫ КУЛЬТУРНЫ ПРАЕКТ ГОДА – ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ У ВІЦЕБСКУ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Таму не дзіўна, што віцебскі фестываль любяць нашы гледачы і многія хоць і з гонарам расійскія музычныя зоркі, якія любяць прыязджаць да нас летам у гэты час. Але якімі б маштабнымі і вясёлымі ні былі гулянні ў Віцебску, на наступны дзень у многіх наступае працвераззенне. Канцэрты прайшлі і наступілі звычайныя айчынныя рэаліі.**

У нашай краіне, сапраўды, з цягам часу мала што мяняецца. Вось ужо 20 гадоў мінула, як прайшоў другі тур першых свабодных і чэсных прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Цяпер не кожны і адкажа адразу, якія па ліку ў наступным годзе адбудуцца наступныя выбары. А дзяржавай і народам паранейшым кіруе адзін і той вядомы нават дзецям чалавек. Добра гэта ці дрэнна, таксама не будзем аналізаваць, кожны з вас хай па-свойму ацэньвае, ці ўдалося беларусам пабудаваць за столькі гадоў, як абяцалі, моцную і квітнеючую маладую дзяржаву для народа.

А вось сёлета гэта палітычная дата практычна супала з правядзеннем у горадзе над Дзвіной чарговага XXIII ужо Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Да нядаўняга часу для многіх жыхароў абласнога цэнтра штогод сярэдзіна лета пераўтваралася ў сапраўдны кашмар, бо атмасфера буйнога народнага свята з масавай выпіўкай і бясконцымі канцэртамі ў асноўным адной і той жа расійскай папсы працягвалася амаль два тыдні. Аднак эканамічныя рэаліі нашых дзён усё ж адбіліся і арганізатарам фестывалю сёлета прыйшлося перайсці на рэжым эканоміі сродкаў.

У выніку было прынята рашэнне істотна скараціць да 5 дзён асноўную праграму галоўных канцэртаў. Праўда, яшчэ два дні дабавілі перад пачаткам свята мастацтваў, на якім традыцыйна дамінуе Расія, на начныя і вячэрнія канцэрты папулярных зорак эстрады (білеты на якіх народ раскупляе як гарачыя піражкі) і столькі ж потым, калі афіцыйна фестываль ужо закрыўся. Таксама сёлета па новых правілах, скапіраваных накшталт тэлефестывалю песні "Еўрабачання", прайшоў і міжнародны конкурс маладых выканаўцаў «Віцебск-2014». Па новым рэгламенце для спевакоў з 21 прэтэндэнта ў паўфінале на другі рашаючы этап конкурсу адбіралія 15 фіналістаў, якія павінны былі там выканаць сусветны музычны хіт пад фанаграму "мінус адзін". Адышлі сёлета арганізатары ад ранейшай традыцыі запрашаць у Віцебск пераможцу песеннага конкурсу "Еўрабачання" з-за нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі барадатай аўстрыйкі Канчыты Вурст. Гэтага артыста на дух не пераносяць тыя ж рускія, якія сталі варожа адносіцца да ў цэлым заходняй культуры, а мы ж іх галоўныя саюзнікі цяпер разам з казахамі. Праўда, даволі сціплы начны канцэрт з амбіцыйнай назвай "Зоркі Еўропы" адбыўся на галоўнай пляцоўцы ў Летнім амфітэатры, але даволі смела лічыць такімі "зоркамі" беларускіх спевакоў Тэо і Алёну Ланскую.

Дызайнеры ў сваю чаргу ў гэтым годзе змянілі фірменны знак "Славянскага базару" – васілёк, якія дапоўніўся каляровымі электроннымі элементамі. Іх можна было пабачыць на ўсёй сувенірнай прадукцыі, на ўваходных білетах. Дарэчы, сёлета білеты на больш чым 70 канцэртаў, спектакляў, кінапрэм'ер на працягу 5 дзён сталі прадавацца даволі актыўна і рана яшчэ ў красавіку. Гэты крок менеджэраў апраўдаў сябе, квіткі на канцэрты добра разыходзіліся, а даход ад іх продажу перавысіў 17 млрд. рублёў. У цэлым жа народу, як і стагоддзі назад, патрабуецца нямнога ў жыцці: хлеба і яркіх відовішчаў.

Таму не дзіўна, што віцебскі фестываль любяць нашы гледачы і многія хоць і з гонарам расійскія музычныя зоркі, якія любяць прыязджаць да нас летам у гэты час. Але якімі б маштабнымі і вясёлымі ні былі гулянні ў Віцебску, на наступны дзень у многіх наступае працвераззенне. Канцэрты прайшлі і наступілі звычайныя айчынныя рэаліі. Перад фестывалем цэны на паліва, праўда, упершыню сёлета для беларусаў павысіліся ў сярэднім на 5 %. Гэта – яшчэ добра, бо ў 2011 годзе бензін даражэў для аўтамабілістаў нават 11 разоў. Дзяржава таксама зрабіла свабоднымі і нерэгулюемымі цэны на яйкі і хлебабулачныя вырабы. Праўда, неўзабаве паступіла новая каманда "асадзі назад" і Мінэканомікі запатрабавала ад птушкафабрык і прадпрыемстваў АПК знізіць цэны на мяса птушкі і дэфіцытную свініну.

Аднак самым балючым стала павышэнне амаль на 18 % цэн на моцныя алкагольныя напоі за 40 градусаў. Беларускі лідар па сваёй традыцыі перад прыездам на фестываль у Віцебск наведаў 103-ю асобную гвардзейскую мабільную брыгаду сіл спецаперацый і асабіста прадэгуставаў якасць страў для харчавання воінаў-дэсатнікаў. Кіраўнік дзяржавы даў даручэнне пераснашчаць нашу армію мабільнымі сродкамі беларускай вытворчасці. Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, безумоўна, прадавала, што суседняя Расія падаравала беларускай арміі некалькі грозных зенітных ракетных комплексаў С-300. Магчыма, рускія сталі такімі шчодрымі пасля таго, як Беларусь па просьбе Крамля абмежавала часова ўвоз украінскай бульбы. А вось у самім Віцебску на фестывалі ўкраінскія артысты былі, хоць сітуацыя ў іх дома заставалася напружанай з-за дзеянняў прарасійскіх "апалчэнцаў" у Данбасе.

## Дзень за днём

**У Нацбанку РБ спагназавалі на канец года курс долара – 10800 беларускіх рублёў. Беларускія банкі адмовіліся прымаць ад насельніцтва наяўныя грыўны і масава знізілі працэнтныя стаўкі па рублёвых укладах. Па ўсёй краіне пачаліся масавыя праверкі рынкаў і гандлёвых цэнтраў. Айчынныя вышэйшыя навучальныя ўстановы крыху павысілі кошт платнага навучання студэнтаў. Дзяржава пачала збор сродкаў на стварэнне мемарыяльнага комплексу на месцы былога канцлагера "Трасцянец". У сувязі з пераездам у новы музей Вялікай Айчыннай вайны ўваходныя білеты падаражэлі ў 4 разы да 40 тысяч рублёў за квіток.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Абстаноўка ў краіне моцна накалілася пасля серыі ракетных абстрэлаў баевікоў ісламісцкага руху "Хамас", у адказ ізраільцяне пачалі ваенную аперацыю.

**ЗША.** Упершыню праз 40 гадоў дзеючай забароны на экспарт нафты кампанія Enterprise прадала за граніцу першую партыю здабытага звышлёгкага "чорнага золата".

**Германія.** Глава Міністэрства юстыцыі Хайко Маас запатрабаваў афіцыйна ад ЗША спыніць шпіёнскую дзейнасць супраць нямецкіх улад і асобных грамадзян.

**Афганістан.** Баевікі руху "Талібан" на дарозе пад Кабулам спалілі 400 аўтацыстэрн з палівам, якое прызначалася для войск абмежаванага воінскага кантынгента НАТО.

**Францыя.** Спецслужбы краіны выявілі і абясшкодзілі групу нелегальных алжырскіх баевікоў "Аль-Каіды", якія планавалі ўзарваць у Парыжы славутую Эйфелеву вежу.

**Украіна.** Прэм'ер-міністр Арсеній Яцанюк пацвердзіў, што ўрад краіны рыхтуе самы маштабны продаж неэфектыўных аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці за апошнія 20 гадоў.

**Ізраіль.** Урад краіны паведаміў аб уводзенні праз 2 месяцы бязвізавага рэжыму для грамадзян Беларусі, аднак для паездак туды патрэбны біяметрычныя пашпарты.

**Куба.** Прэзідэнт Расіі У. Пуцін спісаў практычна ўвесь доўг кубінцаў перад СССР у суме звыш 30 млрд. долараў, ніколі яшчэ Крэмль не рабіў такіх шчодрых жэстаў.

**Эстонія.** Вядомы расійскі музычны журналіст, актыўны крытык курса Пуціна Арцём Троіцкі эмігрыраваў у краіну, стаў жыць з сям'ёй у Таліне, працаваць ва ўніверсітэце.

**Бельгія.** Былы палітзняволены Алесь Бяляцкі наведаў Брусель, сустрэўся з дзеячамі ЕС і заклікаў іх падтрымаць іншых палітвязняў, яго ўрачыста прыняў і мэр Парыжа.

**Кітай.** Дзяржаўнае Цэнтральнае тэлебачанне назвала пагрозай нацыянальнай бяспекі смартфоны амерыканскай кампаніі Apple, бо яны даюць шмат інфармацыі пра краіну.

**Украіна.** Дзярждума Расіі вярнула "зімовы час" і прыняла закон аб стварэнні новых гульнявых зон казіно на тэрыторыі анексаванага Крыма і ў горадзе-курорце Сочы.

**Італія.** Урад краіны зрабіў бясплатным на адзін дзень у месяц уваход ва ўсе італьянскія музеі і археалагічныя помнікі ў першую нядзелю кожнага месяца.

**Францыя.** У праліве Ла Манш паблізу брытанскіх астравоў Джэрсі і Гернсі адбыўся самы буйны за апошнія 90 гадоў землятрус сілай 4,2 балы на глыбіні 12 км пад вадой.

**Кітай.** У горнай вёсцы правінцыі Хунань зваліўся ў вадаём мікрааўтобус з выхаванцамі дзіцячага сада, загінулі ўсе 11 чалавек: кіроўца, 2 настаўнікі і 8 хлопчыкаў і дзяўчынак.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Да працы на будпляцоўцы будучай Беларускай Аэс прыступілі яшчэ 210 юнакоў, адабраных па краіне і ў РФ у зводныя студэнцкі будаўнічы атрад.

**Мінск.** Экс-старшыня Вярхоўнага Савета РБ М. Грыб заявіў, што Беларусі нявыгадна падтрымліваць Расію ў яе адносінах да Украіны, нам важны гандаль з украінцамі.

**Мядзель.** Ветэрынарная служба раёна загадала жыхарам аграгарадка Будслаў і ваколіц масава зарэзаць свіней на панадворках з-за пагрозы АЧС, якая паўзе з суседняй Віцебскай вобласці.

**Ганцавічы.** Больш года мясцовы райвыканкам перашкаджаў прадпрымальніку Арцёму Лойка зарэгістраваць першы ў райцэнтры магазін таннай гандлёвай сеткі "Дабраном".

**Мазыр.** За язду на падпітку на ўласным аўто раніцай у выхадны адхілілі ад пасады палкоўніка міліцыі Юрыя Красюка, кіраваць мясцовым РАУС ён стаў у сакавіку 2013 года

**Мінск.** Каб не было ўкраінскіх падзей, як зазначыў палітолаг В. Карбалевіч, то новая прэзідэнцкая кампанія 2015 года для А. Лукашэнкі развівалася б значна складаней.

**Бабруйск.** Загадчык гінекалагічнага аддзялення мясцовага раддома нелегальна рабіў аборты жанчынам на 12-м тыдні цяжарнасці, а папаўся на хабары ў 60 долараў.

**Мінск.** Дырэкцыя сталічнага метрапалітэна пацвердзіла, што ў бліжэйшыя гады рухомы склад метро можа папоўніцца цягнікамі і вагонамі беларускай вытворчасці.

**Гродна.** У абласным цэнтры адкрыўся першы ў краіне кінатэатр-трансформер "Усход" з экранам пасярэдзіне, ён лёгка пераўтвараецца ў спартыўную залу і танцпляцоўку.

**Жлобін.** Мясцоваму дзіцячаму рэабілітацыйна-аздараўленчаму цэнтру "Пралеска" і яшчэ двум цэнтрам пад Гродна і Петрыкавам перадаў па аўтобусу МАЗ сталічны аўтазавод.

**Мінск.** Супрацоўнікі ДАІ ноччу затрымалі іншамарку "Сеат", якую ўладальнік аддаў у рамонт свайму айчыму, а яго пасынак без правоў аўтамабіль угнаў і паспеў пашкодзіць.

**Салігорск.** За ўхіленне ад выканання пакарання суд накіраваў у турму горада Жодзіна на 4 месяцы экс-нападаючага маладзёжнай зборнай Беларусі па футболе У. Юрчанку.

**Гродна.** Міліцыя затрымала 42-гадовага гараджаніна, які ўкраў з вальера мясцовага заапарка рэдкага пушнога звярка-насуху і няўдала паспрабаваў яго прадаць.

**Вілейка.** Падчас спрэчкі вечарам у адной з вёсак раёна прыезджы 51-гадовы мінчанін нажом забіў сваю сваячку, потым - яе суседа і застрэліўся сам з паляўнічай стрэльбы.

**Рэчыца.** Суд пакараў 23-гадовага раней судзімага гараджаніна 5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за падман 11 гамяльчан, яны купілі яму 11 планшэтаў, смартфонаў

## Папраўкі па фота-і відэафіксацыі парушэнняў ПДР уступяць у сілу ў канцы ліпеня


■ БЕЛТА

**Змены і дапаўненні ў некаторыя беларускія законы па пытаннях забеспячэння бяспекі дарожнага руху, якія ў тым ліку тычацца фота-і відэафіксацыі парушэнняў ПДР, уступяць у сілу ў канцы ліпеня бягучага года. Пра гэта гаворыцца ў законе ад 11 Ліпеня 2014 г. № 176-З, які апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Папраўкамі прадугледжваецца пэўная градацыя адказнасці за перавышэнне хуткасці, зафіксаванае камерамі. У законе гаворыцца, што перавышэнне асобай, якая кіравала транспартным сродкам, устаноўленай хуткасці руху, зафіксаваныя працуючымі ў аўтаматычным рэжыме спецыяльнымі тэхнічнымі сродкамі, якія маюць функцыі фота-і кіназдымкі, відэазапісу, ад 10 да 20 км / г цягне накладанне штрафу ў памеры 0,5 базавай велічыні (цяпер адна базавая велічыня складае Br150 тыс.). Перавышэнне хуткасці ад 20 да 30 км / г - накладаннем штрафу ў памеры 2 базавых велічынь; ад 30 да 40 км / г - 4 базавых велічынь; ад 40 і больш км / г - 6 базавых велічынь.

Пасля ўступлення дакумента ў законную сілу за парушэнні правілаў паркоўкі, зафіксаваныя камерамі, будуць штрафаваць уласніка, а не кіроўцу. За парушэнне правілаў паркоўкі або неправамерную паркоўку на месцы для інвалідаў, зафіксаваныя камерамі, будзе выпісвацца асобны штраф: ён складзе 1 базавую велічыню для ўладальніка легкавога аўтамабіля і 3 базавых велічыні - для ўладальнікаў грузавікоў, трактараў, аўтобусаў і г.д.

Адна з навін, якая прадугледжваецца папраўкамі, тычыцца невыканання кіроўцам патрабавання супрацоўніка органаў унутраных спраў аб прыпынку транспартнага сродку. Напрыклад, за адно невыкананне патрабавання аб прыпынку прадугледжваецца штраф у памеры ад 2 да 8 базавых велічынь. Неаднаразовае невыкананне патрабавання супрацоўніка ДАІ аб спыненні цягне накладанне штрафу ў памеры ад 3 да 10 базавых велічынь або пазбаўленне права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам да 6 месяцаў.

У тым выпадку, калі супрацоўнік ДАІ вымушаны пераследваць парушальніка, прадугледжаны штраф у памеры ад 5 да 20 базавых велічынь з пазбаўленнем права кіравання тэрмінам да 2 гадоў або без пазбаўлення. Пры гэтым з выкарыстаннем спецыяльнага гукавога сігналу ажыццяўляецца інфармаванне ўдзельнікаў дарожнага руху аб неабходнасці павышэння ўважлівасці і выканання мер засцярогі.

Акрамя таго, у закон дададзены артыкул аб прымусовай адбуксіроўцы (эвакуацыі) транспартных сродкаў (са змяшчэннем іх на штрафстаянку і без). Акрамя ўсяго іншага, папраўкі прадугледжваюць, што змешчаны на ахоўную стаянку транспартны сродак вяртаецца ўласніку (уладальніку) або ўпаўнаважанай ім асобе па яго першым патрабаванні.

Агаворваецца таксама ўзмацненне адказнасці за нячпройдзены тэхагляд. Штрафы вырастуць да 1-3 базавых велічынь.

Практычна ўсе палажэнні закона ўступаюць у сілу праз 10 дзён пасля афіцыйнага апублікавання; адзін з артыкулаў і адзін пункт дакумента - праз тры месяцы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Горад прызналі лепшым абласным цэнтрам Беларусі для развіцця бізнесу-2014 і ў сваіх групах горад Наваполацк і Чашніцкі раён з насельніцтвам меней 50 тыс. чалавек.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым маласырзаводзе пачалі выкарыстоўваць новы від спецыяльнай ўпакоўкі ў латэксе для сваіх элітных сыроў па стандартах ЕС.

**Віцебск.** Па ўзбуджанай Генпракуратурай РБ крымінальнай справе за злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі арыштавалі шэраг кіраўнікоў бройлернай птушкафабрыкі.

**Бешанковічы.** Саўгас "Палітадзелец-Агра" першым у вобласці пачаў уборку азімага рапсу і пасля сушкі насення адгрузіў на перапрацоўку на Віцебскі маслаэкстракцыйны завод.

**Гарадок.** Газета "СБ. Беларусь сегодня" апублікавала крытычны артыкул пра размяшчэнне на тэрыторыі раёна па прыкладзе Расіі рэкламы на дрэвах вакол аўтадарог.

**Орша.** Па прыгавору суда на 3-5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі-пасяленні пакараны трое ўпраўленцаў, вінаватых у пажары на мясцовым МКК і гібелі там чатырох чалавек.

**Глыбокае.** Старажытны горад упрыгожыў новы двухпавярховы будынак, узведзены за год працы для мясцовага прадстаўніцтва кампаніі "Белдзяржстрах".

**Дуброўна.** На час летніх канікул у мясцовым прафліцэі стварылі два студэнцкія будатрады па пашыве бялізны для прытулку для пажылых і рамонце 3-х карпусоў установы.

**Верхнядзвінск.** На тэрыторыі суседняй Латвіі зафіксавалі новыя выпадкі АЧС, пра трывожную сітуацыю ў раёне чыноўнікі і ветспецыялісты афіцыйна маўчаць.

**Віцебск.** Ва ўрачыстай абстаноўцы 54 студэнты 2-га курса, будучыя ваенныя ўрачы з ваеннай кафедры мясцовага медыцынскага ўніверсітэта прынялі воінскую прысягу.

**Полацк.** Воіны мясцовага пагранатрада з прымяненнем зброі паблізу дзяржграніцы з Латвіі затрымалі "Ніву" кантрабандыстаў цыгарэт з беларускімі нумарамі.

**Браслаў.** У гарпасёлку Відзы актывізавалі працу па арганізацыі ўрачыстасцей з нагоды 100-годдзя асвячэння самага высокага ў Беларусі касцёла Найсвяцейшай Марыі Панны.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрыўся першы ў Беларусі двухпавярховы рэгіянальны рэстаран сеткі хуткага харчавання "Мак-Дональдс", створана 175 новых рабочых месцаў.

**Паставы.** У горад прыехала дзяржкамісія Беларускай акадэміі мастацтваў і 10 баламі ацаніла дыпломную працу Паліны Піраговай – помнік з каменю "Планета" ў гарпарку.

**Расоны.** Абласная філія ТБМ звярнулася на ўрад Беларусі з прапановай ушанаваць памяць пра Г. Бураўкіна, назваць яго імем вуліцу райцэнтра, Полацка, Мінска, выдаць збор твораў

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Пустыя душы – пустыя люлькі!

***“Для Беларусі мінімальна неабходна 20 міліёнаў чалавек, аптымальна – 30 міліёнаў. Мы зможам накарміць столькі чалавек і быць самадастатковай дзяржавай. Мы будзем мерамі дзяржаўнай падтрымкі садзейнічаць нараджальнасці”.***

*А. Р. Лукашэнка*



**Фадзей Шымуковіч**, *настаўнік-пенсіянер, краязнаўца, г. Дзісна.*

А вось важная вытрымка з іншага выказвання Прэзідэнта на Усебеларускім народным сходзе: “*Норма для беларускай сям’і – трое дзяцей. Мэта вялікая, і плата за яе дарагая. Але гэта плата за суверэнітэт і незалежнасць. Без людскога рэсурса нічога не будзе*”.

Прыемна разумець, што вышэйшая пасадавая асоба – Прэзідэнт – выдатна разумее сітуацыю і так востра і канкрэтна ставіць пытанне аб рашэнні дэмаграфічнай праблемы. Сапраўды, маючы такую краіну як Беларусь, не так ужо пакрыўджаную Богам прыроднымі рэсурсамі, для таго, каб гэтыя рэсурсы выкарыстоўваць граматна і па максімуму для паляпшэння дабрабыту нашага народа, з улікам узроўню нашай аснашчанасці тэхнікай у нас недастаткова людскіх рэсурсаў. Гэта добра бачна з параўнання шчыльнасці засялення краін Заходняй Еўропы і іншых краін.

Тэрыторыя Беларусі складае 207,6 км$^2$, на якіх пражывае амаль 9,5 млн. чалавек, пры шчыльнасці 45 чалавек на 1 км$^2$, у той час як шчыльнасць насельніцтва ў Бельгіі 330 чалавек на 1 км$^2$, у Нідэрландах – 870 чалавек, Германіі – 204 чалавекі, Швейцарыі – 170 чалавек, Аўстрыі – 100 чалавек, Польшчы – 122 чалавекі. А вось у нашых суседзяў, краін, якія ўваходзілі ў склад СССР карціна зусім іншая. Ва Украіне – 82 чалавекі на 1 км$^2$, Літва – 60 чалавек, Латвія – 41 чалавек, а ў матухны Расійскай Федэрацыі – толькі 9 чалавек на км$^2$.

Дэмаграфія – адна з прычын эканамічнага стану краіны. Возьмем Нідэрланды, іх тэрыторыя 41,5 тыс. км$^2$, усяго толькі больш нашай Віцебскай вобласці на 1,1 тыс. км$^2$. Карыснымі выкапнямі Бог абдзяліў гэту краіну далей няма куды. 40% тэрыторыі – гэта плошча адваяваная ў мора, пры дапамозе дамб і адкачкі вады. Прадаўжальнасць дамб больш за 3000 кіламетраў, якія патрабуюць вялікіх матэрыяльных затрат на іх утрыманне. Насельніцтва – 15 мільёнаў чалавек. Краіна ўмудраецца не толькі забяспечыць харчаваннем такую колькасць насельніцтва, але і экспарціраваць у іншыя краіны сельгаспрадукцыю. Так, у 2010 годзе экспарт склаў 17 міліярдаў еўра. Ці ж гэта не той прыклад, які патрэбна пераймаць.

Асноўная прычына дэмаграфічнага крызісу не эканамічная, не палітычная, хоць і яны адыгрываюць немалую ролю, а духоўная, этычная. Калі людзі не вернуцца да духоўных традыцый, сям’я будзе парушана, а з ёю і ўсё чалавецтва, таму што новыя пакаленні будуць інертнымі да прадаўжэння роду. Праяўленні цяжкага крызісу сям’і сёння паўсюль і наглядна: масавыя разводы, павелічэнне ліку няпоўных сем’яў, аборты, гомасэксуалізм, педафілія, наркаманія, адмова ад уступлення ў шлюб і дзетанараджэння і г.д. Замест нармальнай сям’і ў моду ўвайшло сужыццё, пры якім верагоднасць з’яўлення дзіцяці ў такой “грамадзянскай сям’і” роўна нулю. Тры гады назад у 62% беларускіх сямей было толькі па адным дзіцяці. Амаль кожная другая сям’я распадалася. За 10 год з 1999 года да 2009 года не было народжана 800 тыс. дзяцей з-за абортаў.

Галоўная наша памылка заключаецца ў тым, што мы бачым сябе толькі цялесна. Мы забыліся, што ў чалавека ёсць другі бок – духоўны, што ў гэты свет мы прыйшлі не выпадкова, а па нейкім сцэнарыі. Калі мы ўпісваемся ў яго, то няма збояў у рабоце нашай сутнасці, а калі не ўпісваемся – зарабляем цяжкія хваробы, розныя напасці, а то і грэх смяротны. Сёння вельмі мала спецыялістаў, якія маглі б дакладна сказаць, што такое мараль і духоўнасць. Нашы парламентарыі нярэдка прымаюць законы, калі практыцызм у жыцці становіцца вышэй маралі. Аборт – гэта абсалютна амаральная справа. За яго будуць расплачвацца жанчына, якая пайшла на аборт, доктар, медсястра і, нават, санітарка, якая гэтае дзіця ў сметніцу выкідвае. Крытэрыі маралі вядомыя і канкрэтныя ў розных культурах. У нас гэта хрысціянскія запаведзі, сярод якіх ёсць “Не забі”. Таму не патрэбна наогул палітызаваць, добра гэта ці дрэнна, тым больш, з пункту гледжання дзяржаўнай палітыкі, правядзенне абортаў. **Мы ўкладваем сродкі ў выхаджванне неданошаных, частка з якіх не атрымае сацыяльнай і медыцынскай адаптацыі, і ў той жа час забіваем мільёны паўнавартых, якія не нарадзіліся – ці ж не абсурдна нават для прагматычнай дзяржавы?** Парой мы проста ўпіваемся навукова-тэхнічнымі дасягненнямі ў імя славалюбства і пажадлівасці, губім дух, а цела ператвараем у палігон іспытаў. Мы не хочам прызнаць праставу ісціну – разумнае і маральнае павінны супадаць.





Так будзе праходзіць змяншэнне колькасці насельніцтва Беларусі, калі не будзе прынята канкрэтных мераў супраць гэтага.

*Графік з сайта pro-life.by*





**Вельмі ўсцешна, што на фоне кепскай дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне на вуліцах Глыбокага з’яўляецца ўсё больш і больш маладых мам.**

На ўсё жыццё запомніўся здымак у часопісе “Аганёк”. Пажар у многапавярховым доме. З расчыненага акна на трэцім паверсе кошка скача з коцікам у зубах. Гэта сімвалічны момант мацярынскай ахвярнасці – што б ні здарылася, ратаваць патомства. У тэлепраграме “В мире животных”дэманстраваўся такі трагічны эпізод. На дзікую козачку з зусім маленькім казлянём напаў воўк з мэтай завалодаць малым. Козачка-маці стала адводзіць ваўка ад свайго дзіцяці па падманным шляху. Патомства сваё яна ненадоўга выратавала коштам свайго жыцця. Ёй і ў галаву не магло прыйсці, што без яе мацярынскага клопату патомства загіне. Але яна інстынктыўна ішла на ахвяру ў імя выратавання дзіця. А мы, людзі?

На жаль, вышэйшыя каштоўнасці маралі не аднолькава адзначаюцца царквой і грамадствам. Маюцца значныя разыходжанні. Старшыня Сінадальнага аддзела па ўзаемаадносінах Царквы і грамадства пратаіерэй Усевалад Чаплін агучыў праект дакумента “Вечныя каштоўнасці – аснова расійскай ідэнтычнасці”. У яго ў парадку памяншэння ўвайшлі: 1 – справядлівасць, 2 – свабода, 3 – салідарнасць, 4 – саборнасць, 5 – самаабмежаванне і ахвярнасць, 6 – патрыятызм, 7 – даброты чалавека, 8 – сямейныя традыцыі. АіФ апытала сваіх чытачоў, як бы яны размеркавалі ў парадку змяншэння гэтыя каштоўнасці. Апытана 3547 рэспадэнтаў. А якую з гэтых каштоўнасцяў найбольш важнай лічыце Вы? Вось вынік адказаў: 1 – справядлівасць, 2 – сямейныя традыцыі, 3 – свабода, 4 – патрыятызм, 5 – чалавечае дабро, 6 – самаабмежаванне і ахвярнасць, 7 – саборнасць, 8 – салідарнасць. Калі царква сямейныя традыцыі паставіла восьмымі, то людзі ўбачылі больш высокую каштоўнасць і паставілі на 2-е месца.

Старажытныя звычаі прадпісваюць адносіцца да шлюбу выключна сур’ёзна: сям’я на Каўказе ствараецца адзін раз і на ўсё жыццё. І сапраўды, у “традыцыйных” сем’ях амаль няма разводаў. Па сцвярджэнні Аляксандра Басяцкага, намесніка старшыні асацыяцыі беларускіх цыган “Рома”, сям’я для цыган – самае каштоўнае, што ў іх ёсць. Мы паважаем сваіх бацькоў, таму што яны наша мінулае, і дзяцей, таму што яны наша будучыня. У нас не прынята разводзіцца, таму цыганскія сем’і вельмі моцныя. Чалавек павінен жыць з адной жонкай. У Бібліі пра гэта чорным па белым напісана.

Калі розум не кантралюе цела, з чалавекам можна зрабіць што заўгодна, і ён сам можа зрабіць што заўгодна. У многіх, на жаль, у розуме перамяшалася цудоўнае з жудасным, дабрыня з жорсткасцю, цынізмам, так што патрэбна думаць, думаць і думаць, каб усё паставіць на свае месцы. І глыбока памыляецца той, хто лічыць, што нічога страшнага не адбываецца, можна спакойна адпачываць ад мук душэўных, ад праблем сямейных. Дар Божы – чалавек, які не церпіць абыякавасці – рэдкі экзэмпляр, выміраючы від, рэдкі падарунак прыроды. Яго б зберагаць і лелеяць, а не таптаць бруднымі ботамі ў гразь, знішчаць і не заўважаць. Пасапраўнаму разумны чалавек – мэтанакіраваная асоба і прыкладны сем’янін. Ён ніколі не будзе дурачком, які радуецца куску варанай каўбасы і кутку ў інтэрнаце. Ён адчувае сябе тым, хто ён ёсць на самай справе, у сапраўднасці, з нарматыўнымі чалавечымі патрабаваннямі, сваімі амбіцыямі, планамі. Ён ніколі не дазволіць утвараць з сябе ролю расходнага матэрыялу. У яго і сям’я, і дзеці ў пэўным парадку.

Аднак, нельга забываць, што для таго, каб чалавек мог у поўнай меры выкарыстаць свае магчымасці, у тым ліку і дэмаграфічныя, чалавек павінен быць запатрабаваны і дзяржавай, і грамадствам, і ў асобліва цяжкім становішчы яму павінна быць аказана дапамога, у тым ліку і матэрыяльная. Вельмі часта перад маладымі сем’ямі, і не толькі маладымі, паўстае праблема жылля.

Указам Прэзідэнта №13 ад 06.01.2012 года заканадаўча замацавана права шматдзетных сямей на атрыманне добраўпарадкаванага жылля па зацверджаных нормах плошчы праз ільготнае крэдытаванне з наступнай фінансавай падтрымкай дзяржавы ў пагашэнні крэдытаў. У той жа самы час урадам зацверджаны канчатковы нарматыў кошту будаўніцтва аднаго квадратнага метра агульнай плошчы на 2013 год – 500 долараў у эквіваленце.

Па гэтых паказчыках банкам вызначаецца сума ільготнага крэдыту. Але рэальны кошт узвядзення жылля ў мінулым годзе быў ужо прыкладна ў два разы вышэй. Вось такая пастка пастаўлена чыноўнікамі шматдзетным сем’ям на шляху атрымання абяцаных даброт. Так, калі сям’я з чатырма малалетнімі дзецьмі адважыцца на будаўніцтва дома па ўстаноўленых нарматывах, ёй прыйдзецца адшукаць каля 90 тысяч долараў асабістых сродкаў. Ці рэальная гэта сума для іх? Калі сёння ў сельскай мясцовасці ў Мікалаеўскім СПК за красавік мужык на рамонце атрымаў 540 тысяч рублёў у месяц.

Парадокс дзеючай практыкі ў тым, што калі шматдзетная сям’я вырашыць пабудаваць або набыць маленькі домік плошчай 5-6 м$^2$ на душу сям’і, ёй прыйдзецца палову кошту ўносіць са свайго сямейнага бюджэту. Пры гэтым сям’ю дабравольна-прымусова здымуць з чаргі як патрабуючых паляпшэння жыллёвых умоваў.

Хоць з 1 траўня 2014 года вырас памер дзіцячых дапамог да вялікіх сум, а менавіта, адначасовая дапамога пры нараджэнні першага дзіця складае 12 124 700 рублёў, пры нараджэнні другога і наступных – 16 974 600 рублёў, гэта ніяк не можа паўплываць на кошт пакупнога жылля і вырашыць праблему яго набывання з пастаянна растучай яго дарагавізнай.

На Усебеларускім народным сходзе Прэзідэнт А. Р. Лукашэнка паабяцаў, што калі ў сям’і 4 ці 5 дзяцей, то павінна быць гарантавана бясплатная кватэра. А потым ён неаднаразова гаварыў аб гэтым на розных сходах і сустрэчах з працоўнымі, але… А вось па рашэнні суда Ленінскага раёна г. Мінска ад 11.03.2011 года пастаноўлена: скасаваць дагавор найма жылога памяшкання ў інтэрнаце са Шкробавамі. І хоць у сакавіку 2014 года ў адносінах пасадавых асоб завода ўзбуджана крымінальная справа за махінацыі, сям’і Шкробавых ад гэтага не лягчэй. Пакуль што Шкробавы Віктар і Вольга з двума дзецьмі выселены на вуліцу без жылля. **Дзе ж справядлівасць, дзе проста чалавечае спачуванне дзецям?**

Каб спасцігнуць спачуванне, патрэбна спачатку многа даведацца аб жорсткасці і раўнадушшы. А многія нашы чыноўнікі акрамя эканомікі, выканання планаў любымі сродкамі, любым коштам, нічога не хочуць ведаць і бачыць. Дзікасць – як туземная адсталасць. Няўжо закон бутэрброда дабраўся і да спраў у нашых сэрцах: калі ў душы штосьці “падает”, то абавязкова “маслом вниз”. Патрэбна чалавека, а асабліва дзяцей, любіць і яшчэ раз любіць, а мы раўнадушныя. У чым справа? Няўжо любоў памерла?

У 2009 годзе міжнародны калектыў вучоных завяршыў працу над маштабным прагнозам “Будучыня цывілізацыі” да 2050 года. І там гучыць гэты ж вынік: без змянення этыкі, без культывавання каштоўнасцяў салідарнасці, калі будучыня важней сучаснага, а справядлівасць важней закона, не вырашыць праблем дэмаграфіі. А ўсяму гэтаму і вучыць нас тысячагадовая хрысціянская духоўная традыцыя. Змяненне светапогляду дае і матэрыяльны эканамічны эфект! Сёння грамадства вымушана траціць вялікія сродкі на барацьбу з негатывам. Мы добра ведаем, што дрэнна не мыць рукі перад ядой, затое лёгка ўпускаем у сваю душу “нямытую” інфармацыю, часта будуем сваё жыццё згодна гэтай інфармацыі, гэтым антыгуманным прынцыпам.

У чалавека, які ўспрымае сябе як недзялімае цэлае з іншымі, не можа развівацца сябелюбства, абыякавасць да іншых. Таму, калі чалавечае грамадства будзе пабудавана на аснове любові да бліжняга, яно не будзе хворым, кожны чалавек у такім грамадстве будзе шчаслівым, таму што будуць задаволены ўсе яго патрабаванні. **Нельга любіць сябе, не любячы іншых людзей**, якія, па сутнасці, з'яўляюцца часткай чалавека.

**Ягоная смерць была раптоўнай. Ніхто са знаёмых ды сяброў не мог і ўявіць, што з жыцця так хутка пойдзе гэты вельмі шчыры і энергічны чалавек. Яму было толькі 58.**

# Быў адным з тых, хто гатовы ўсё зрабіць у імя зменаў у нашым жыцці

## Светлай памяці Яўгена Самсонава



Жах! Калі мне патэлефанавалі – я не паверыў, але падсвядома разумееш, што такімі словамі не жартуюць.

Яшчэ раніцай мяне пабудзіла ўнучка (позна лёг спаць), і кажа: "Яўген прыехаў!"

– I што ён хоча?-- пытаю.

– Іванавіч, паехалі на рыбалку!– чую голас Яўгена.

– Ай! Яўген, якая рыбалка! Адчапіся! Вуды ў мяне не гатовыя, трэба паплаўкі, кручкі павязаць...

– Дам я табе і вуду, і чарвякоў! Паехалі!

– Не! Чужымі вудамі не лаўлю...

I Яўген з'ехаў...

А вечарам пачуў такую жахлівую навіну...

Як такое магло стацца? Спартсмен! Рыбак! Паляўнічы! Ніколі не хварэў і не кашляў! Як зіма – Яўген на лыжню ад ЖКГ. Як спаборніцвы па рыбнай лоўлі – Яўген на лёд! I заўсёды з прызамі адтуль: то грамата, то кубак, то новы спінінг у якасці ўзнагароды...

Гэта найвялікшая страта для грамадзянскай супольнасці Глыбокага за ўсе гады яе існавання. Гэта ж колькі матэрыялаў з'явілася ў "Вольным Глыбокім" і на розных сайтах, радыёперадачах, БелСАТе дзякуючы Яўгену!!! Хоць ён далёка і не ўсе іх пісаў, але арганізоўваў паездкі ў Германавічы, у Бычкі на радзіму Васіля Быкава, на рыцарскі фэст у Браслаў, вандроўкі па Глыбоччыне, ды браў з сабой некалькіх журналістаў.

Пачынаў ён пісаць для "Вольнага Глыбокага" з маленькіх нататак на спартыўную тэматыку. Не былі яны шэдэўрамі – трэба праўду сказаць – але з кожнага апублікаванага матэрыяла пасля карыктуры Яўген рабіў высновы і штораз "адточваў пяро". Рабіў журналісцкія расследаванні, сустракаўся з людзьмі, нават з цэлымі вёскамі, ехаў туды, дзе яго чакаюць, дзе людзям патрэбна дапамога… Згадаем хаця б вёску Кішы, дзе былі вялікія праблемы з водазабеспячэннем.

Памятаецца, завітаў да мяне в.п. археолаг Міхась Чарняўскі з прапановай даследаваць адну тэму, а менавіта аб трох падпольшчыках, якія ў 1960-я гг хацелі ўзарваць глушылку (г.зн. вышку, якая глушыла замежныя радёперадачы). Сярод іх быў і студэнт з Глыбокага Віктар Храпавіцкі. У Лаўрынаўскім лесе са снарадаў ён здабываў тол і адвозіў яго ў Мінск. Група вяла падрыхтоўку да тэракту…

Спадар Чарняўскі, які меў дачыненне да выдання часопіса "Veritas", папрасіў мяне даследаваць тэму і напісаць матэрыял. Я пагадзіўся.

Аднак, з-за сваёй занятасці я так і не дайшоў да даследавання гэтай тэмы, і як цяпер разумею, ніколі б і не дайшоў. Тэма вымагала шмат часу і шматлікіх паездак.

– Яўген, хочаш праславіцца?– кажу жартам. – Бяры тэму! У мяне рукі не даходзяць. Не стае часу.

Яўген узяўся за тэму з вялікім энтузіязмам. Праз колькі часу ў яго ўжо была цэлая тэчка фотаздымкаў, якую прадставіла сям'я Храпавіцкіх з Шунеўцаў. Потым ён паехаў у Мінск, знайшоў Сяргея Ханжанкова, арганізатара і кіраўніка гэтай падпольнай студэнцкай групы. Запісаў успаміны. Часта сустракаўся са сп. Ханжанковым на розных жалобных мерапрыемствах, у тым ліку і ў Мікалаеве, дзе скончылася Дарога Смерці вязняў Беразвецкай турмы НКУС.

Яўген напісаў выдатны матэрыял – **«Як узрывалі глушылку»**. Яго апублікаваў "глянцавы" БАЖаўскі часопіс "Абажур", № 3 (78), 2009 г. Гэты матэрыял удзельнічаў у конкурсе імя Веранікі Чаркасавай і заняў высокае 3-е месца.

Апошнімі гадамі Яўген Самсонаў заняўся відэадакументалістыкай. Шмат грошай, якія ашчаджаў, выдаткаваў на добрую апаратуру. Разам з Леанідам Юрыкам стварыў творчую групу. Ездзілі па рэгіёне занатоўвалі на відэа важнейшыя падзеі з жыцця нашага краю як нашых дзён, так і важнейшыя падзеі даўніх часоў і лёсы выбітных людзей у аповядах старажылаў. У бліжэйшых планах Яўгена быў дакументальны фільм, які прысвечаны 20-годдзю газеты "Вольнае Глыбокае"...



Падзвядзенне вынікаў конкурсу журналісцкіх матэрыялаў імя Веранікі Чаркасавай, 12 студзеня 2010 г. Яўген Самсонаў (злева), побач Сяргей Ханжанкоў, арганізатар падпольнай групы, Уладзімір Дзюба (на заднім плане), рэдактар часопіса "Абажур" і сваякі Віктара Храпавіцкага.

**Радыё Свабода** на Вянок памяці напісала *(захаваны правапіс арыгіналу)*:

Яўген Самсонаў працаваў кіроўцам у ЖКГ. Ня меўшы адмысловай адукацыі, ён прыйшоў у журналістыку калі стаў ужо сталым чалавекам, але да гэтае справы ставіўся зь вялікім энтузіязмам і адказнасьцю. Стаў рэпартэрам-аматарам, шмат пісаў для сайту *westki.info* — на спартовую тэматыку, пра культурніцкае жыцьцё рэгіёну.

Апошнім часам яго амаль заўжды бачылі з відэакамерай, ён здымаў відэафільмы пра Глыбоччыну, пра выбітных людзей рэгіёна, пра тое, што хвалявала яго самога і ягоных землякоў. Сёлета ў траўні ў Глыбокім прайшла прэзэнтацыя трох яго апошніх фільмаў. Назва аднаго зь іх, прысьвечанага мастаку Язэпу Драздовічу, гучыць па сьмерці аўтара фільма папрарочаму — *«Я вас помню, а вы ўспамянеце мяне»*... Яўген Самсонаў займаўся і грамадзкай дзейнасьцю, быў прыхільнікам стварэньня партыі Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. У 2011 годзе ён распачаў у Глыбоцкім раёне кампанію за захаваньне ў належным экалягічным стане возера Алоізберг каля мястэчка Падсвільле. Мясцовая міліцыя неаднаразова ладзіла праверкі, ці не займаецца спадар Самсонаў чымсьці недазволеным: прынамсі, у міліцыю была паступіла «ананімка», што ён выпусьціў паклёпніцкія ўлёткі супраць кіраўніка ідэалягічнага аддзелу. Зьвесткі з анаімкі не пацьвердзіліся, але ўся тая гісторыя папсавала актывісту нямала нэрваў.

I ўсё ж Яўгена Самсонава згадваюць у Глыбокім як вялікага аптыміста, якому былі неабыякавыя любыя падзеі ў родным горадзе. Згадваюць ягоную ўсьмешку і гатоўнасьць дапамагчы парадай ці справай. I ніхто з тых, хто яго ведаў, ня хоча і ня можа даць веры, што Яўгена Самсонава больш няма...

**Тацяна Севярынец**, каардынатарка аргкамітэту ў стварэньні партыі БХД па Віцебскай вобласці:

***«Гэта вялікая страта для нас, аднапартыйцаў, сяброў... Яўген Самсонаў быў адным з тых, хто гатовы ўсё зрабіць у імя зьменаў у нашым жыцьці. I ён сам зьмяняў яго, наколькі мог, — і як грамадзянін, як прыхільнік стварэньня нашай партыі, і як журналіст. За гэта яму шмат даставалася ад уладаў, і кожны выпадак перасьледу пакідаў след на ягоным сэрцы. Гэта перажывалася цяжка, хаця Яўген імкнуўся не паказваць на людзях свае праблемы і цяжкасьці. Ён трываў, заўжды выглядаў аптымістам, а вось сэрца ня вытрымала... Сьветлая памяць сьветламу чалавеку, нашаму Яўгену Самсонаву».***

Грамадскі дзяяч **Вінцук Вячорка** ўзгадвае Яўгена Самсонава як надзвычай актыўнага чалавека:

***«Гэта чалавек, каля якога не праходзіла ніякая значная беларуская падзея, як культурная, так і важная для грамадзтва, у яго родным рэгіёне. Лёгкі на пад'ём, вучыўся новым тэхналёгіям, у тым ліку лічбавым, авалодваў відэажурналістыкай, зрабіў некалькі, хай аматарскіх, але насычаных дакумэнтальных фільмаў, удзельнічаў у конкурсе Народны журналіст, і нават увайшоў у першую дзясятку лідараў».***

***

Эх, Яўген… У мяне слёзы наварочваюцца… Няма Цябе! А столькі планаў засталося незрэалізаваных, фільмаў, артыкулаў, вандровак…

Яўген быў светлым, вясёлым і шчырым чалавекам… Такім і застанецца ў памяці усіх, хто яго ведаў і быў знаёмы з ім.

*Уладзімір Скрабатун.*

# 239 чалавек патанулі з пачатку года ў вадаёмах краіны

**Паводле звестак рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання "Беларускае рэспубліканскае таварыства ратавання на водах", у 2014 годзе ў Беларусі патанулі 239 чалавек, з іх 14 непаўналетніх. Яшчэ 260 "патэнцыяльных ахвяраў вады" ўдалося выратаваць, паведамляе МНС Беларусі.**

Няглядзячы на тое што колькасць патанулых знізілася на 28,7% у параўнанні з аналагічным перыядам 2013 года, практычна штодзённа летам паступаюць тэлефанаванні пра такія здарэнні.

Неасцярожных купальшчыкаў ратуюць работнікі МНС, Асвода і выпадковыя сведкі. На жаль, не заўсёды ўдаецца пазбегнуць трагедый. Так, 9 ліпеня абарвалася жыццё мужчыны ў Мастоўскім раёне ў рацэ Нёман. Выкінуўшы з хуткай плыні падлетка 2000 года нараджэння, сам ён быў падхоплены ракой і патануў.

У Брэсцкай вобласці 11-гадовы вучань 4-га класа, жыхар Пружан, не ўмеючы плаваць, трапіў на глыбокае месца, але быў выратаваны работнікамі Асвода.

На возеры Дрывяты ў Віцебскай вобласці ў зоне дзеяння ратавальнай станцыі 7 ліпеня падчас катання на лодцы пры рэзкім парыве ветру не змагла справіцца з кіраваннем жыхарка Мінска. Яе выратавалі работнікі Асвода.




9 ліпеня два студэнты БДУ і малады чалавек з Латвіі, парушыўшы меры бяспекі, перакуліліся, катаючыся на байдарках. Усе яны былі выратаваныя работнікамі **Браслаўскай** ратавальнай станцыі.

На рацэ Сож у Гомелі 8 ліпеня два хлопцы 19 гадоў, грамадзяне РФ і студэнты беларускай сельгасакадэміі, бравуючы адзін перад адным, скакалі з пешаходнага моста. Абодвух давялося ратаваць вадалазам Асвода.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

